

Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

№15 (253) 11 — 17 КРАСАВІКА 2002Г. НАКЛАД 12.000 ЭКЗ. КОШТ 250 РУБ.

# СУД НАД ЖУРНАЛІСТАМІ ПЕРАНЕСЕНЫ




Фота IREX/ProMedia

**Першае судовае пасяджэнне па справе журналістаў забароненай уладамі газеты "ПАГОНЯ" Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам сёння было перанесена на нявызначаны тэрмін.**

Падставай пераносу разгляду справы стала тэрміновая шпіталізацыя старшыні працэсу суддзі Мікалая Сяргейкі. Пра гэта паведаміла прысутным супрацоўніца канцылярыі суда Ленінскага раёна.

— Гэта першая перамога над судом! – усклікнуў Мікола Маркевіч пасля гэтай абвесткі.

Крымінальная справа выклікала вялікую зацікаўленасць у журналістаў розных сродкаў масавай інфармацыі і жыхароў Гродна. На судовым пасяджэнні прысутнічалі расійскае тэлебачанне НТВ, польскае TVP і шматлікія журналісты з незалежных выданняў розных краін.

Потым у рэдакцыі "ПАГОНІ" адбылася прэс-канферэнцыя Міколы Маркевіча (справа) і Паўла Мажэйкі (на здымку абодва ў белых майках).

**Дзяніс КУРЧЭЎСКІ**

НАВІНЫ

# НАРЭШЦЕ, ПАЕДЗЕМ ПА ДОБРАЙ ДАРОЗЕ



Фота Віталя ГІЛЯ

**На пасяджэнні райвыканкама мясцовыя ўлады размеркавалі 370 мільёнаў рублёў на капітальны рамонт і рэканструкцыю жыллёвага фонду Слоніма.**

Каля 100 мільёнаў пойдзе на комплексны рамонт дома №41 па вуліцы Сінічкіна і дома №4 па завулку Аптэчнаму. Яшчэ 170 мільёнаў рублёў запланавана ўкласці ў рамонт дахаў дамоў на вуліцы Брэсцкай, 75, 1-й Сямігодкі, 26, Хлюпіна, 4, Чарняхоўскага,15, Чырвонаармейскай, 83 і 85а, Янкі Купалы, 3.

Але, як паведаміў карэспандэнту "ГС" дырэктар жыллёва-камунальнай гаспадаркі Слоніма Канстанцін Зубко, гэтыя работы будуць распачаты толькі пасля таго, як у бюджэце з'явяцца неабходныя сумы грошай.

А вось што ўжо робіцца, дык гэта капрамонт мастаvой па вуліцы Першамайскай. На гэта выдаткавана 16,2 мільёна рублёў. Цалкам будзе заменены асфальт дарогі ад аддзела міліцыі ўніз па вуліцы Я. Купалы да моста і вакол двухпавярховага будынка, што насупраць магазіна "Юбілейны".

У планах таксама і рэканструкцыя вуліцы Шасэйнай. Яна павінна пашырыцца і папрыгажэць, бо гэта – твар Слоніма для тых, хто едзе праз наш горад. На гэта пойдзе болей за 100 мільёнаў рублёў.

Газета Слонімская
11 — 17 красавіка 2002г. №15 (253)

# 2005-Й ГОД В СЛОНИМЕ УЖЕ НАСТУПИЛ. ПОКА ТОЛЬКО ДЛЯ ОДНОЙ РОТЫ



*В ожидании министра обороны*


*Леонид Мальцев выправкой гвардейцев доволен*



*В такую форму к 2005 году оденут всю белорусскую армию*

**Для белорусской армии разработана новая военная форма. Планируется, что она будет повсеместно введена в 2005 году. Форма включает в себя летнее и зимнее обмундирование, отличительная особенность которого — новый рисунок камуфляжа.**

К тому же, камуфляж расположен не вдоль, как раньше, а поперек формы. При пошиве применен новый, более качественный материал, который не вытягивается и не выгорает. В дополнение к этой форме разработан разгрузочный жилет для всех категорий военнослужащих: отдельно для автоматчиков, пулеметчиков и снайперов. Новый вещевой мешок изготовлен по десантному варианту и имеет приспособления для спального мешка (сверху), бушлата (снизу).

В разгрузочный жилет входят места для размещения индивидуальных противохимического и перевязочного пакетов, радиостанции, магазинов, приспособление для размещения гранат и гранат к подствольному гранатомету. Сзади в жилете имеется дополнительный карман, в который можно положить запас патронов и продовольствия. С введением разгрузочного жилета отпала необходимость в сумках для автоматных магазинов и для гранат.

**Несколько дней назад первая мотострелковая рота 11 механизированной бригады получила новое, экспериментальное обмундирование.**

Необычна для современной белорусской армии и техническая экипировка военнослужащих. У каждого солдата, сержанта, офицера и прапорщика имеется индивидуальная радиостанция. К тому же, в роте у каждого командира отделения и у каждого офицера имеются новые калиматорные лазерные прицелы "БелОМО", разработанные производственным объединением "Агат".

Напомним, что рота эта готовится к предстоящим в России учениям воинских подразделений стран, участниц Договора о коллективной безопасности. Выглядеть наши военные на этих учениях будут получше своих коллег из других стран СНГ. Если еще к 2005 году так же экипируют и оденут всю армию Беларуси, то можно будет гордиться такой армией.

А пока что на все вооруженные силы только одна полностью укомплектованная и экипированная должным образом рота. В прошлый четверг, 4 апреля, рота была представлена министру обороны Беларуси генерал-полковнику Леониду Мальцеву. Министр остался доволен выправкой воинов.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

СОЦЫУМ

# ДОМ НІНЫ МІХАЙЛАЎНЫ — НЕ КРЭПАСЦЬ

**Наша знаёмства з Нінай Міхайлаўнай Дзмітрыевай адбылося восенню мінулага года. Тады жанчына скардзілася на няякасна зроблены рамонт яе кватэры па вуліцы Пушкіна,16, што ў Слоніме. На бюджэтныя сродкі жыллёва-камунальнай гаспадаркі кватэру Ніны Міхайлаўны адрамантавала падрадная арганізацыя ТАА "Зодчы".**

Незадаволеная недаробкамі будаўнікоў, гаспадыня напісала скаргу на імя тагачаснага старшыні гарвыканкама Алега Лакцюшына, а другі ліст накіравала кіраўніку "Зодчага" Мікалаю Дуброўскаму. Пакуль лісты хадзілі па інстанцыях, падлога паціху гніла. Таму Ніна Міхайлаўна прыйшла ў рэдакцыю "ГС" шукаць падтрымкі. Мы параілі ёй усё ж пачакаць, не спяшацца выносіць сваю праблему на старонкі газеты. І сапраўды, у снежні мінулага года работнікі фірмы "Зодчы", пасля адпаведнага распараджэння дырэктара ЖКХ Канстанціна Зубко, замянілі падлогу ў халоднай прыбудове, прасвідраваўшы для вентыляцыі ў дошках дзюркі па кутах. Але ў зімовых умовах паўторны рамонт быў не дароблены. Хаця па некаторых прыкметах існавала падазрэнне, што падлога гніе не ад вільгаці, а дошкі "з'ядае" грыбок. У такім выпадку патрэбна было правесці экспертызу і прыняць адпаведныя меры. Нічога гэтага зроблена не было. Тады гаспадыня зноў напісала ліст дырэктару "Зодчага" і выказала сваю праблему на прыёме ў новага ўжо старшыні райвыканкама. І ад 22. 02. 2002г. атрымала адказ за подпісам Мікалая Дуброўскага (друкуецца на мове арыгінала):

"На Ваше письмо о замене полов в холодной пристройке ООО "Зодчий" разъясняет следующее.

Устройство дощатых полов было выполнено с некоторыми нарушениями СниП, т.е. некачественно произведено антисептирование нижней стороны доски, что повлекло за собой её разрушение.

ООО "Зодчий" несёт ответственность за выполненные работы и в течение нормативного срока исправило допущенный брак.

Также сообщаю Вам, что устройство полов в жилых помещениях было выполнено без нарушений СниП и в ближайшем будущем с ними ничего не должно случиться."

Аднак, нягледзячы на сцвярджэнні дырэктара, падлога ў жылых памяшканнях працягвала разбурацца, а гаспадыня кватэры не адступалася ад свайго і патрабавала рамонту. І, нарэшце, справа зрушылася.

На мінулым тыдні карэспандэнт "ГС" звязаўся з дырэктарам "Зодчага" Мікалаем Дуброўскім, які паведаміў, што для замены падлогі ў двух жылых пакоях кватэры Ніны Дзмітрыевай ўжо нарыхтавалі дошкі. Праз некалькі дзён іх прывязуць з Баранавічаў, і падлога будзе заменена ў бліжэйшы час. Але спачатку, сказаў Мікалай Мікалаевіч, у гэтых пакоях патрэбна зняць верхні пласт грунту і правесці дэзінфекцыю.

Прычынай таго, што дошкі так хутка згнілі, Мікалай Дуброўскі назваў павышаную вільготнасць старых знешніх сценаў дома, што складаюць аснову будынка. Павышаная вільготнасць грунту на месцы, дзе пабудаваны гэты дом, таксама магла спрыяць узнікненню грыбка, які хутка "з'ядае" драўніну. Таму, лічыць дырэктар ТАА "Зодчы", і патрэбна здымаць грунт і праводзіць дэзінфекцыю.

А гаспадыні кватэры на вул.Пушкіна,16 застаецца спадзявацца, што пасля апошняга рамонту падлога пад нагамі правальвацца не будзе.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНА

## СЕЮЦЬ ЯРАВЫЯ

**У сельскіх гаспадарках Слонімшчыны поўным ходам ідзе сяўба яравых збожавых і бабовых культур.**

Па стану на 8 красавіка па раёну было засеяна 30% ад запланаваных плошчаў.

Лідыруюць у сёлетняй пасяўной калгас імя Суворава, у якім на пачатак тыдня было пасеяна 45% ад патрэбнага, "1Мая" — пасеяна 42% і "Слонімскі" — 42%. У хвасце пасяўной кампаніі заставаліся такія гаспадаркі, як "Чырвоная зорка", "Чырвоны партызан" і "Кастрычнік", у якіх на той час засеялі толькі 17, 18 і 19 працэнтаў плошчаў адпаведна.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ЗДАРЭННІ

## ЗА СТО БАКСАЎ — ПАД АРЫШТ

**Другога красавіка жыхар Баранавічаў грамадзянін Тарасюк спрабаваў збыць у Слоніме фальшывую стадоларавую купюру.**

Змахляваць не ўдалося, 5 красавіка ён быў арыштаваны. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## ПРЫКІНУЎСЯ БЕСПРАЦОЎНЫМ

**30 сакавіка супрацоўнікі Слонімскага аддзялення ДАІ затрымалі мясцовага жыхара Івана Кулака. Ён у п'яным стане кіраваў уласнай аўтамашынай.**

Пры складанні пратакола грамадзянін Кулак назваўся беспрацоўным, але пазней высветлілася, што ён працуе галоўным інжынерам у ДЭУ-191.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## ВЫВАЛІЎСЯ З АЎТОБУСА

**У панядзелак, восьмага красавіка, каля дзесяці гадзін раніцы з маршрутнага аўтобуса №7 на прыпынку "Ромашка" вываліўся жыхар Слоніма Станіслаў Аляксееў.**

Да няшчаснага выпадку Аляксеева давяло злоўжыванне спіртным. У стане моцнага алкагольнага ап'янення ён быў дастаўлены ў наркадыспансер.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## УСЁ БОЛЕЙ П'ЯНЫХ ЗА РУЛЁМ

**Па выніках першых трох месяцаў 2002 года інспектары Слонімскага аддзялення ДАІ затрымалі 251 вадзіцеля, што кіравалі аўтамабілем у п'яным стане.**

Як паведаміў начальнік аддзялення капітан міліцыі Васіль Супрун, лічбы гэтыя насцярожваюць, калі параўноўваць з мінулымі гадамі. Напрыклад, за ўвесь 1998 год было затрымана 362 нецвярозых вадзіцеля.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## ЖИВОТНЫХ СПАСЛИ

**На прошлой неделе, в среду, в д. Деревная Слонимского района загорелся кирпичный сарай.**

Из огня были спасены корова и свинья. Причина пожара устанавливается.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

## СГОРЕЛИ ДОМ И САРАЙ

**5 апреля в деревне Озерница Слонимского района огнем уничтожены дом и сарай.**

Причина пожара и ущерб, нанесенный огнем, устанавливаются.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ДЗЯТЛАВА

## АДНОЎЛЕНА ЗАЛА МУЗЕЯ

**У Дзятлаўскім краязнаўчым музеі аднўлена зала, якая называецца "Матэрыяльная культура краю канца 19 — пачатку 20 стагоддзяў".**

Тут паказаны асноўныя заняткі сельскіх жыхароў — земляробства і жывёлагадоўля.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## УКРАЛІ ПІВА

**Невядомыя асобы залезлі ў магазін вёскі Харашкі Дзятлаўскага раёна і ўкралі прадукты харчавання, віно і піва.**

У зладзействе падазраваюцца дзве сястры з Баранавіцкага раёна. Праводзіцца праверка.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## ГАРЭЛІ ДОМ І КВАТЭРА

**На вуліцы Перамогі ў Дзятлаве гарэў прыватны дом.**

Гаспадар хаты застаўся жывы, але агонь пашкодзіў дах і столь.

А ў пасёлку Гезгалы загарэлася кватэра на першым паверсе шматпавярховага дома. У агні загінула жанчына. Прычыны пажару высвятляюцца.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

МАСТЫ

## КЛОПАТ ПРА ВЕТЭРАНАЎ

**У мастоўскую краму "Ветэран" паступілі ў продаж звычайныя металічныя вёдры коштам болей 8000 рублёў.**

Разам з тым, у суседняй краме, якая знаходзіцца непадалёку, падобныя вёдры каштуюць тры з палову тысячы рублёў.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## БАЦЬКОЎСКІ ЎЧЫНАК

**Мастаўчанін Уладзімір Мандзін за свае ўласныя сродкі арганізаваў паездку вучняў трэцяга класа СШ№5 у Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей.**

На працягу трох гадзін дырэктар музея Алесь Мікалаевіч Белакоз праводзіў з дзецьмі ўрок па гісторыі роднага краю.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## АСАМБЛЕЯ ПА ПРАБЛЕМАХ БЕЛАРУСКАМОЎНАГА НАВУЧАННЯ

**26–27 красавіка мяркуецца правесці навукова-практычную Асамблею па праблемах беларускамоўнага навучання, інавацыйных методык і тэхналогій сучаснай школы.**

Мэта Асамблеі — абмеркаванне праблемных пытанняў роднамоўнага навучання, укаранення ў практыку сучаснай беларускай школы прагрэсіўных інавацыйных методык і тэхналогій.

Асноўная праблематыка і тэматычныя кірункі працы: стан і перспектывы бларускамоўнага навучання ў адукацыйных установах Беларусі, пошук шляхоў трансфармацыі міжнародных і айчынных педагагічных навацый і здабыткаў у беларускамоўную адукацыю, вопыт і апрабацыя актыўных метадаў навучання,прынцыпы народнай педагогікі і сучасныя прагрэсіўныя тэхналогіі, эксперыментальная дзейнасць "Этнасада" і "Этнашколы".

Тэзісы выступленняў на паперы і дыскеце у памеры 1-2 старонкі дасылайце да 15 красавіка 2002 года на адрас: 220007, Мінск, вул. Магілёўская, 37-345 (кафедра этналогіі і фалькларыстыкі БДПУ).

**Тэлефоны для даведак:**
(017) 274 04 72 (Алесь Лозка),
(017) 234 07 97, 235 79 27 (Тамара Мацкевіч),
e-mail: tarnara@cscsc.org.by.

ПРАБЛЕМА



Фота Віталя ГІЛЯ

# ЦАНА БЯЗДУМ'Я

**Далёкі 1983 год. Зэльвенскае вадасховішча здадзена ў эксплуатацыю. Прэса ўзахлёб распінаецца — усхваляюць "Зэльвенскае мора". І сапраўды, па памерах яно ўражвае сваёй велічынёй. Увіце, яго паверхня складае 1243 гектары, а ў асобныя месяцы, у час разліву, вадзяное люстэрка дасягае 1380 гектараў. Даўжыня вадасховішча — 9 кіламетраў, максімальная шырыня — 2 кіламетры, глыбіня — 7,5 метра. Адзначу, што поўны аб'ём вады складае 28 мільёнаў кубічных метраў, натуральны прыток вады ў маловодны год — 155,2 мільёна кубічных метраў. Так што, гэта сапраўднае штучнае мора. Здавалася, ёсць чаму радавацца.**

Па праекту "Белгідраводгаса", адобранага ў свой час Міністэрствам меліярацыі і воднай гаспадаркі, як значыцца ў праектна-эксплуатацыйнай дакументацыі, мае наступнае прызначэнне: "Акумуляцыя вады вясенняга павадку на ўвільгатненне і арашэнне зямель, рэгуляванне сцёку ракі Зяльвянка, культурна-бытавыя і пажарныя патрэбы". Як бачым, яно нават не разлічана на прамысловае развядзенне і адлоў рыбы. Затое ёсць "велічны" прыкід на, так званую, "акумуляцыю" вады, як быццам бы мы, зяльвяне, знаходзімся ў зоне арашаемага землекарыстання, ці у зоне пустынняй ці паўпустыннай мясцовасці.

Асаблівай размовы патрабуе прызначэнне "мора" па рэгуляванню сцёку ракі Зяльвянка. Аднак, ім патрэбна ўмела карыстацца. Бо ўсе 24 гадзіны ў суткі, падаючы з пяціметровай вышыні гідразбудавання, вада грукоча-пеніцца і нічога не круціць (няма ні млынарні, ні ГЭС), дык аб якім "рэгуляванні сцёку ракі Зяльвянка" можа ісці размова? Іншая справа, калі б у гідразбудаванне ўманціравалі дзве гідратурбіны (адна — на малы напор вады, другая — на максімальны), дык, пабач з выпрацоўкай электраэнергіі (дармавой электраэнергіі) вялося б само па сабе і "рэгуляванне". Аднак гэтага не зрабілі, ды і ў перспектыве такое не прадбачыцца. А час няўмольна бяжыць. Не за гарамі "Анненская" Зэльва будзе адзначаць 20-годдзе ўводу ў эксплуатацыю "славутага" "Зэльвенскага мора". А тым часам з вадасховішча ўхалістую штогод уцякае 82,42 мільёны кубаметраў вады праз створкі дамбы і каналаў. Гэта 53 працэнты ўсяго натуральнага прытоку вады ў сховішча. І толькі 17,6 мільёны кубічных метраў складае карысны аб'ём, які, у асноўным, прыпадае на майжнівень. А гэта, як гаворыцца, мізэр у параўнанні з той "халастой" вадой, што без карысці знікае ў падмаставым вадаспадзе.

Ці гэта не альтэрнатыва экалагічна катастрафічным АЭС і буйным ГЭС? Гэта магла б быць, каб дадумалася недадумліваe чыноўніцтва, нашая, Зэльвенская, родная і лакальная ГЭС. Але... вада ўцякла, а з ёю ... "збегла" дармавая электраэнергія.

Дык можа гідрабудаўнікі дабіліся б поспехаў у іншым? Скажам, у "пажарных патрэбах". Аказваецца, і тут поўны правал. Вадасховішча здалі ў эксплуатацыю, а пра збудаванне дасканалых "пірсаў-пад'ездаў" для пажарных машын забыліся.

А калі ўлічыць, што паводпал воднага сховішча забалочваецца амаль 300 гектараў зямель, дык ні аб якім пад'ездзе "чырвоных" машын для забору вады на тушэнне пажараў не можа ісці ніякай размовы. А разам з забалочваннем мясцовасці многія дзесяткі гектараў прылягаючых да вадасховішча лясоў апынуліся ў перавільготнена-абмежаваным стане. Тут яскрава вымалёўваецца шкодны ўплыў "акумуляцыі вады", не гаворачы ўжо пра "затапленне" бульбасховішчаў на падворках грамадзян. Цяпер ужо ўзнікае "культурна-бытавая" праблема. А каб быць яшчэ больш дакладным і не мінуць "культурную" праграму, дык патрэбна зрабіць напамін зэльвенцам пра іх мары-мроі "аздараўляцца" у раённым доме адпачынку — прафілакторыі, які будаваўся, але так і не наканавана яму было здзейсніцца. Будавалі, як гаворыць, "з кожнага па нітцы", усе калгасы. Затым ён, гэты недабуд-даўгабуд, пайшоў па руках: прадавалі (мабыць, "з малатка"), перапрадавалі. Нарэшце ён перайшоў у юрысдыкцыю рэспубліканскіх прафсаюзаў. А цяпер, калі прафсаюзы абядненлі, чакаць чагосьці добрага нельга. Ды і Зэльвенскаму райвыканкаму гэты "дом адпачынку" аказаўся непатрэбным.

Можа клапатлівыя мясцовыя ўлады вадасховішча ператварылі яго ў штосьці своеасаблівa каштоўнае? Напрыклад, рыбай "завалілі" магазінныя прылаўкі? Аказваецца, і тут "поспехі" скаціліся да нуля. Увіце, у 1987 годзе, калі вадасховішчам неяк умоўна кіравала Зэльвенскае пчолааб'яднанне, здабылі 7 616 кг шчупака, плоткі, ляшча, у 1988 годзе ён склаў усяго 3 752 кг, а пазней звёўся на нішто. А цяпер ужо, як гаворыць, "займаемся спартыўнай рыбалкай". Спорт — гэта нядрэнна. Але ж "спорт" на прасторах у памерах 1 243 гектары, гэта, пры ў некалькі кіль-пудоў улову, бадай што злачынства.

Увіце, навокал прыгажуні Зяльвянкі, якая славілася і рыбай, і ракамі, цешылі шматтраўем заліўныя лугі-сенажаці. І ўкос складаў не меней 30-35, а то і болей, цэнтнераў духмянага сена з гектара. Цяпер гэтую колькасць перамножым на 1 243. Што атрымаецца? Гэта 37-43 тысячы цэнтнераў спажыўных кармоў. Калі ўлічыць, што ў сярэднім калгасы Зэльвеншчыны нарыхтоўваюць па 1-1,5 тысячы цэнтнераў сена на ўсё пагалоўе на зімовы перыяд, а ў раёне — 14 калгасаў, дык хапіла б дабротнага корму на ўсё пагалоўе раёна. І зноў-такі, чым не альтэрнатыва! А пакуль што славутае Зэльвенскае вадасховішча дае нам тое, што завецца стратнасцю: электраэнергіі няма, рыба амаль не трапляе ў грамадска-кааператыўны гандаль, пірсаў таксама няма. А ўвогуле, "Зэльвенскае мора"— гэта тое, што завецца безразважнасцю і безгаспадарлівасцю.



Фота Віталя ГІЛЯ

Зазначу, кошт будаўніцтва (на 80-я гады) склаў звыш 5 мільёнаў рублёў. Згодна разлікам праектнай арганізацыі "Белгіправадгаса", усё будаўніцтва павінна акупіцца за 9 гадоў. Але аб якой акупаемасці можа ісці размова, калі шэраг калгасаў Зэльвеншчыны, каб пракарміць жывёлу, сянаж завозяць з іншых раёнаў вобласці. Не хапае зялёнай масы, а тым часам 1 243 га заліўных лугоў марнее пад пазеленелай вадой "Зэльвенскага мора". Акрамя таго, пад воднай плеўкай "схаваны" пласт тарфянога грунту, які дае і акісленне вады, і цэлы набор воднай зеляніны — вадарасцей.

Не лішнім будзе сказаць, што па-за выраўнаванай 25-кіламетровай адцінай ракі Зяльвянкі ўведзена ў гаспадарчае карыстанне каля 13 тысяч рэчышчавых сенажацяў і пашаў. Але скажыце, калі ласка, якая іх прадукцыйнасць, калі сакавітыя сянаж і сілас раёну трэба завозіць з калгасаў Гродзенскага раёна? А хутакя рэчка Зяльвянка (ад Зэльвы да вёскі Пескі Мастоўскага раёна) страціла навечна сваю першапачатковую прыгажосць і жыўнасць. А спруцянелы травастой далёка ўступае духмянаму сену натуральных сенакосаў. Акрамя ўсяго, ураджайнасць іх з кожным годам паніжаецца. А калі іх агульны збор раздзяліць яшчэ на пустуючую гладзь вадасховішча, дык ураджайнасць зводзіцца да мінімуму. Вось ён, як гаворыцца, ва ўсёй сваёй прыгажосці дэфіцыт мыслення, які дастаўся нам у спадчыну, і які таксама нейкім чынам б'е па нашаму жыццёваму ўзроўню.

Каму цяпер належаць гэтыя гектары? А нікому. Бясхозныя. Нібыта нагляд, калі праве вал, вядзе Зэльвенскае прадпрыемства меліяратыўных сістэм. Нейкі нагляд за адловам рыбы (так сабе, умоўна) вядзе таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Ну, трошкі там нейкае дачыненне да "сховішча" мае райінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Словам, усе патроху, а карысці ніякай.

Іван ЦІМАФЕЙЧЫК

МАСТЫ

## ПАЗБАВІЛІ ДЗЯЦЕЙ ПАМЯШКАННЯ

**Мастоўскае дабрачыннае аддзяленне фонду "Дзецям Чарнобыля" пэўны час арэндавала ў СШ №5 памяшканне былога ціра.**

Там былі размешчаны кампутарны клас і трэнажорная зала. Як дзеці, так і дарослыя мелі бясплатны доступ да Інтэрнета. У трэнажорнай зале займалася некалькі груп школьнікаў. Увогуле, мелі занятак некалькі соцен дзяцей, не толькі перасяленцаў, але і карэнных мастаўчан. Напачатку арэндная плата была сімвалічнай. Але напярэдадні Новага года раённы аддзел адукацыі змяніў дамову і запатрабаваў поўнае аплаты. За некалькі месяцаў было налічана болей мільёна рублёў. Такой сумы дабрачынная арганізацыя сплаціць не магла і была вымушана забраць сваё абсталяванне. У выніку гэтага дзеці засталіся без любімага занятку.

Антон МАКЕЙ

## АДБЫЎСЯ ВЕСНАВЫ КІРМАШ

**У мінулую нядзелю ў Мастах, ля стадыёна "Нёман" адбыўся чарговы веснавы кірмаш.**

Гэтым разам там дазволілі гандляваць камерсантам. Асартымент тавараў быў аднастайны. Наведвальнікаў было менш, чым у мінулым годзе. Гандлю не спрыяла надвор'е. Ужо ў дзве гадзіны дня апошні камерсант вымушаны быў скласці гандлёвую палатку.

Антон МАКЕЙ

## АХВЯРАВАЛІ НА МЕМАРЫЯЛ

**Сябры Луненскай суполкі ТБМ правялі акцыю па збору сродкаў на помнік бальшавіцкім ахвярам у Курапатах.**

Ахвяраванні склалі болей як трыццаць тысяч рублёў.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## ГУЧАЦЬ "ГОЛАСУ ДУШЫ"

**Актывісты Луненскай суполкі Кансерватыўна-хрысціянскай партыі правялі збор подпісаў пад зваротам з патрабаваннем аднаўлення перадачы беларускага радыё "Голас душы".**

Паўсотні вяскоўцаў паставілі пад зваротам свае подпісы.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## РАІЛІСЯ РЭСУРСАВЫЯ ЦЭНТРЫ

**У Мастах прайшоў двухдзённы семінар прадстаўнікоў рэсурсавых цэнтраў вобласці.**

Болей двух дзесяткаў кіраўнікоў гэтых арганізацый падвялі папярэднія вынікі сваёй працы і вызначылі прыарытэтныя накірункі дзейнасці на будучае. Зараз гэтыя цэнтры прапаноўваюць бясплатныя паслугі кампутарнай і капіравальнай тэхнікі як прыватным асобам, так і грамадскім арганізацыям. У семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі рэсурсавых цэнтраў, а таксама літоўскія калегі з Каўнаса.

Антон МАКЕЙ

Газета Слонімская
11 — 17 красавіка 2002г. №15 (253)

ОБЩЕСТВО

# ЛИШЬ 4 БЕЛОРУССКИХ САМОЛЕТА ОТВЕЧАЮТ МЕЖДУНАРОДНЫМ СТАНДАРТАМ



Фота IREX/ProMedia

**С 1 апреля ряд стран Евросоюза запретил принимать самолеты, несоответствующие международным требованиям по уровню шума и экологической безопасности.**

Среди национальных авиакомпаний, наиболее пострадавших от ограничений, и белорусская "Белавиа". Специалисты объясняют ситуацию нежеланием белорусских властей приобретать технику у признанных мировых лидеров авиастроения и ориентацией исключительно на российских производителей. Из всех бортов национального авиапарка лишь четыре самолета Ту-154М соответствуют требованиям Международной организации гражданской авиации (ICAO) по уровню шума. Это обстоятельство существенно повлияет на работу компании "Белавиа", утверждает Радые Свабода.

**Наталья ФУРСОВА**

# В МИНСКЕ НАЧАТО СТРОИТЕЛЬСТВО АКВАПАРКА

**В Минске, в районе пересечения улицы Орловской и проспекта Машерова начато строительство первого в стране аквапарка.**

Как сообщили БелаПАН в комитете архитектуры, градостроительства и землеустройства Мингорисполкома, для строительства водного центра выделена площадка в 20 гектаров. Он будет состоять из 11 современных аттракционов и непосредственно самого открытого аквапарка. Вода в бассейне будет подогреваться, а часть аттракционов, например, катание на надувных лодках, впоследствии может использоваться и зимой. Аквапарк одновременно сможет обслуживать около 7 тысяч человек.

Возможно, уже в августе будет сдана в эксплуатацию первая очередь объекта. Окончательно же он должен быть построен к маю-июню 2003 года.

**БелаПАН**

# ПАРЛАМЕНТ ОДОБРИЛ ПОПРАВКИ В КОДЕКСЕ О ЗЕМЛЕ

**Палата представителей Национального собрания Беларуси одобрила во втором чтении поправки в Кодекс о земле.**

Как сообщил, представляя законопроект, председатель постоянной парламентской комиссии по аграрным вопросам Александр Азарченков, в кодекс вводится ряд новых глав, касающихся вопросов регулирования отношений в области мониторинга земель, государственного земельного кадастра и землеустройства.

В частности, устанавливается структура государственного земельного кадастра, закреплены обязательность учета земельных участков, виды земельно-кадастровой документации, определен порядок выдачи сведений государственного земельного кадастра.

Основным нововведением земельного кодекса А.Азарченков назвал создание системы государственного учета земельных ресурсов. Теперь все земельные ресурсы, независимо от формы собственности, будут включены в государственный кадастр, в котором, среди прочих данных, будет указываться и стоимость земельного участка. По мнению председателя комиссии, без этих нововведений невозможно дальнейшее развитие в Беларуси земельных отношений и вовлечение земельных ресурсов в рыночные процессы.

**Юрий ПОТЕМКИН**

ПОЛИТИКА

# ЛУКАШЕНКО ПОТРЕБОВАЛ УЖЕСТОЧИТЬ НАДЗОР

**О проекте Государственной программы по усилению борьбы с коррупцией и взяточничеством доложил вчера Александру Лукашенко генеральный прокурор Беларуси Виктор Шейман.**

Генпрокурор докладывал также о результатах коллегии, проведенной в республиканской прокуратуре по вопросам эффективности выявления Министерством внутренних дел, Комитетом государственной безопасности и Департаментом финансовых расследований Комитета государственного контроля фактов коррупции в таможенных органах и органах исполнительной власти.

Глава государства потребовал от генпрокурора ужесточить надзор за законностью деятельности руководителей организаций всех уровней, добиваться полного возмещения материального вреда, причиненного халатностью, не целевым использованием бюджетных и кредитных средств.

**ХАРТИЯ-97**

ОБЩЕСТВО

# ЗА РАСТРАТУ ТОПЛИВА ЖДЕТ СУРОВАЯ КАРА

**Меры ответственности за халатное хранение топлива становятся более жесткими.**

Указом Александра Лукашенко предусмотрено наказание за халатное хранение и расходование топлива в виде штрафа от 5 до 30 базовых величин — штраф накладывается на руководителей предприятий, бухгалтеров и других служебных лиц.

Штраф от 5 до 10 базовых величин будет накладываться в случае выявления эксплуатации автомобилей с неисправным спидометром.

**Наталья ФУРСОВА**

# ВЛАСТИ ПЕРЕСАЖИВАЮТСЯ НА "МЕРСЕДЕСЫ" И "УАЗИКИ"

**Чтобы обеспечить всех руководителей районов новыми автомобилями, управление делами президента закупило недавно партию "Мерседесов" в количестве 174 штук, а чтобы местным руководителям было на чем "выезжать в поля", для них закупили еще 119 автомобилей УАЗ.**

Всего в Беларуси 118 районов. Нетрудно посчитать, что каждому районному руководителю достанется, как минимум, по одному "Мерседесу" и одному "УАЗу", а некоторым даже по две машины. Первую партию машин в количестве 27 штук получили руководители Гомельской области.

**Gazeta.ru**

# НАЛОГ ЗА ПОМОЩЬ В НАПИСАНИИ КОНТРОЛЬНЫХ РАБОТ

**Витебский областной Совет депутатов определил ставки налога для предпринимателей, предоставляющих "практическую помощь в написании дипломов, курсовых и контрольных работ".**

Отныне за оказание такого рода услуг предприниматели и "иные физические лица" обязаны уплачивать налог: в областном центре в размере 35 евро, в районных центрах — 30 евро, в иных населенных пунктах — 25 евро.

Вслед за решением Совета депутатов со страниц местных рекламных изданий исчезли объявления с предложениями выполнить письменные работы.

**Леонид СИМОНОВ**

ЭКОНОМИКА

# 30% БЕЛОРУССКИХ ПРЕДПРИЯТИЙ — БАНКРОТЫ

**Согласно официальной статистике, более 30% всех белорусских предприятий находится в банкротном или предбанкротном состоянии, сообщает ИА ЭКОПРЕСС.**

Такие данные привел начальник Управления финансовой политики Министерства экономики Беларуси Владимир Аносов. Выступая на собрании Международного клуба директоров БНПА, он отметил, что около 70% всех текущих активов белорусских предприятий приходится на запасы сырья, материалов и готовой продукции.

В целом, отмечает начальник Управления финансовой политики, в сложившейся кризисной ситуации от руководителей требуется максимально рациональное использование активов предприятия.

**Наталья ФУРСОВА**

ЭКОНОМИКА

# С НАЧАЛА ГОДА КВАРТПЛАТА УВЕЛИЧИЛАСЬ В 2,74 РАЗА

**В марте 2002 года в Беларуси продолжился рост тарифов на жилищно-коммунальные услуги для населения.**

Вновь резко увеличилась квартплата (плата за техобслуживание, если квартира приватизирована) — на 43,8 процента (с 22,43 до 32,26 рубля за квадратный метр общей площади), притом что в феврале она уже повышалась на 82,2 процента.

На 20 процентов возросла стоимость отопления на столько же — горячей воды.

На 4,1 процента увеличилась плата за пользование лифтом (со 107,25 до 111,65 рубля на человека), на 2,9 процента — за газ (с 269,2 до 277 рублей на человека), холодную воду и канализацию (с 92,1 до 94,8 рубля за кубический метр).

С начала года квартплата увеличилась в 2,74 раза (за весь 2001 год — на 38,5 процента), отопление подорожало на 38,3 процента, горячая вода — на 38,2, электроэнергия — на 25, холодная вода и канализация — на 12,2, вывоз и обезвреживание отходов — на 9, газ — на 7,1, плата за пользование радиоточкой возросла на 10,3 процента, лифтом — на 9.

**БелаПАН**

# МИНИСТЕРСТВО СВЯЗИ ПОДНИМАЕТ ЦЕНЫ



Фота IREX/ProMedia

**Министерство связи Беларуси объявило об увеличении в начавшемся месяце цен на свои услуги.**

Делается это для того, чтобы помочь большинству районных предприятий связи, которые являются убыточными. Тарифы на услуги вырастут до 10%. Повышение цен объясняется также тем, что в Беларуси самые низкие цены на услуги электросвязи среди стран СНГ. К примеру, абонентская плата в Беларуси не менялась с декабря прошлого года и составляет 684 белорусских руб. (меньше 0,5$), отметили в министерстве.

**ХАРТИЯ-97**

# БАНКОВСКАЯ СИСТЕМА В УПАДКЕ

**Рентабельность собственного капитала белорусских банков в 2001 составила 2,6%. Для сравнения, в 1996 году эта цифра составляла 21%, в 1994 году - 134%, а в 1993 году - 200%.**

Доля собственного капитала банков в ВВП Беларуси составляет 3%. Такие цифры, как передает ИА ЭКОПРЕСС, привел на собрании Международного клуба директоров БНПА директор Департамента внешнеэкономической деятельности Национального банка РБ Юрий Власкин.

Только из этих цифр, отметил он, можно сделать вывод, что банковская система Беларуси не только мала и недостаточно сформирована для того, чтобы обеспечивать деятельность предприятий, но и сама в настоящее время оказалась в такой ситуации, когда предприятия вынуждены ее кредитовать.

**Наталья ФУРСОВА**

# УТВЕРЖДЕНЫ МЕРОПРИЯТИЯ ПО ОБЕСПЕЧЕНИЮ ДОПОЛНИТЕЛЬНЫХ ДОХОДОВ В БЮДЖЕТ

**Правительство Беларуси собирается установить мораторий на внесение в Совет министров предложений о предоставлении налоговых кредитов, индивидуальных налоговых и таможенных льгот.**

Это лишь одна из мер, предусмотренных планом мероприятий по обеспечению дополнительных доходов в бюджет, который утвержден распоряжением премьер-министра страны Геннадия Новицкого. От установления такого моратория правительство рассчитывает получить дополнительно в бюджет в течение года 100 миллиардов рублей.

Среди других мероприятий по обеспечению дополнительных доходов в бюджет фигурируют такие, как сокращение количества льгот, предоставляемых гражданам при оплате жилья, проезде на транспорте и других; установление ежегодных фиксированных платежей для фирм и предпринимателей, осуществляющих туроператорскую и турагентскую деятельность; подготовка предложений о введении отдельных видов обязательного страхования; введение местных сборов при въезде на территорию Беларуси; развитие лотерейной деятельности; установление ставок акцизов на масла для дизельных и карбюраторных (инжекторных) двигателей; увеличение объемов реализации древесины; разработка мер по выполнению дополнительных заданий по росту ВВП на 2002 год и другие.

Общая сумма дополнительных поступлений в бюджет от всех запланированных мероприятий составит почти 380 миллиардов рублей. По данным Министерства по налогам и сборам, на 1 марта задолженность по платежам в бюджет составляла 189,6 миллиарда рублей. По сравнению с началом года она возросла на 41,3 процента.

**Алексей ОРЕШКО**

БАСКЕТБОЛ

# ПРОСТОЙ ФАБРИКИ ПОШЕЛ НА ПОЛЬЗУ СПОРТСМЕНАМ КПФ

**В прошедшие выходные в городском спорткомплексе прошли игры чемпионата Слонимского района по баскетболу.**



Фота Віталя ГІЛЯ

*В атаке на кольцо команды Жировичского агротехнического колледжа Кирилл Кандиранда (ДЮСШ №1)*

Свои команды (всего – девять) на турнир выставили предприятия Слонима и колхозы Слонимского района. В итоге двух дней соревнований определились призеры чемпионата. На третьем месте расположилась команда ОАО "Картонно-бумажный завод "Альбертин"". Второе место – за баскетболистами из Новодевятковичей.

А звание чемпионов Слонимского района завоевали баскетболисты ОАО "Слонимская камвольно-прядильная фабрика". По-видимому, вынужденный простой этого предприятия рабочие фабрики использовали для усиленных тренировок накануне чемпионата, и, как видим, – с блестящим результатом.

В составе команды камвольщиков под руководством тренера Виктора Савчина на площадку выходили работники фабрики Юрий Пролюк, Андрей Жабский, Виталий Епанешников, Евгений Жилинский и Владимир Веремейчик.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ШАШКІ

# У ЮБІЛЕЙНЫМ ТУРНІРЫ ПЕРАМАГЛІ ШАШЫСТЫ ВАЎКАВЫСКА

**Юбілейны, пятнаццаты, адкрыты абласны турнір памяці Мікалая Мялешкі прайшоў у Слонімскім гарадскім шахматна-шашачным клубе.**

Каб прыняць удзел у турніры, у Слонім з Брэсцкай, Віцебскай, Мінскай і Гродзенскай абласцей прыехалі 28 шашыстаў, сярод якіх былі тры майстры і 12 кандыдатаў у майстры спорту.

Спаборніцтвы праходзілі па швейцарскай сістэме ў 9 тураў. У выніку, па 13 ачкоў набралі майстар спорту Васіль Наумік з Ваўкавыску і кандыдат у майстры спорту барысаўчанін Віктар Самарын. Па дадатковых паказчыках першае месца прысуджана ваўкавыскаму шашысту. Трэцяе месца з дванаццаццю ачкамі заняў слонімскі майстар Іван Мялешка.

Даволі паспяхова згулялі ў турніры і юныя слонімскія шашысты. Напрыклвд, Андрэй Мацявін (СШ №9) выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту, вучні сярэдняй школы №8 Максім Кандзіранда і Дзяніс Ярашэвіч сталі першаразраднікамі, Віктар Міско (СШ №9) атрымаў другі спартыўны разрад, а юны Юрый Сегень (СШ №8) – першы юнацкі разрад.

На заканчэнне спаборніцтваў прайшоў бліц-турнір, у якім кожны ўдзельнік меў 5 хвілін на дзве партыі. Перамог у хуткасным бліц-турніры Аляксандр Андрыанаў з Ваўкавыска. На другім месцы – слонімец Віталь Аніська, які не ўдзельнічаў у асноўным турніры. І трэцяе месца ўзяў ваўкавыскі першаразраднік Віктар Ланец.

**Яўген ІВАНОЎ**

ФУТБОЛ. ЕВРОКУБКИ

# КТО БУДЕТ ПРЕДСТАВЛЯТЬ БЕЛАРУСЬ В КУБКЕ ИНТЕРТОТО И КУБКЕ УЕФА

**Как проинформировала газета "Прессбол", в Ньоне (Швейцария) состоялось заседание комитета УЕФА по проведению Кубка Интертото.**

На нем был утвержден список мест, предоставленных национальным федерациям в предстоящем розыгрыше. Беларусь получила одно место в Кубке Интертото-2002. И принадлежит это место прошлогоднему бронзовому призеру "БАТЭ".

Но борисовчане продолжают борьбу за Кубок Беларуси, и если они его выиграют, или Кубком завладеет "Динамо" (Минск), серебряный призер 2001 года, то "БАТЭ" будет играть в Кубке УЕФА, а в Кубке Интертото стартует "Неман" (Гродно).

Жеребьевка стартовых раундов будет проведена 9 апреля.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ФУТБОЛ. МІЖСЕЗОННЕ

# У КАМАНДЗЕ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ЛІДЭРЫ

**На мінулым тыдні слонімскі "Камунальнік" сыграў тры апошнія матчы ў турніры на Кубак Гродзенскай вобласці.**

Другога красавіка слонімцы выйшлі на поле супраць гродзенскага "Нёмана". Пройгрыш нашай каманды з лікам 0:4 пракаменціраваў галоўны трэнер "Камунальніка" Барыс Лазарчык:

– У гэтай гульні судзейскія сімпатыі былі на баку гаспадароў, і першы гол у нашыя вароты ўляцеў з яўнага становішча па-за гульнёй, а суддзя гэтага "не заўважыў". Хуткі гол унёс разгубленасць у дзеянні нашых хлопцаў, і праз 12 хвілін "Камунальнік" прапусціў другі гол.

У другім тайме мы мелі шмат магчымасцей зраўняць лік гульні. Некалькі момантаў мелі Яўсеенка, Сіланцьеў, Аначэнка. Але судзейскія намаганні ды слабаватая пакуль што тэхнічная падрыхтоўка нашых футбалістаў не дазволілі "размачыць" вароты "Нёмана". А вось гаспадары поля забілі яшчэ два галы.

На наступны дзень, 3 красавіка, "Камунальнік" чакала сустрэча ўжо з дублёрамі гродзенскага "Нёмана". І, магчыма, слонімцы перамаглі б у гэтым матчы, але прапусцілі гол у дабаўлены час. Прыйшлося задаволіцца нічыёй – 1:1. Адзіны гол у вароты гродзенцаў правёў капітан сёлетняга "Камунальніка" Аляксандр Вольскі, які ў мінулым сезоне гуляў за мінскі "Лакаматыў".

У апошнім матчы слонімская каманда сустрэлася з даўнім сапернікам – "Нёманам" з Мастоў. У першым тайме гэтай гульні "Камунальнік" цалкам дамінаваў на полі. Дублямі адзначыліся Валерый Цыганенка і Павел Яўсеенка (адзін гол – з пенальці). Лік 4:0, здавалася, не пакідаў мастаўчанам шанцаў, але яны здолелі ў другой палове сустрэчы адыграць два мячы, зацвердзіўшы канчатковы лік гульні – 4:2 на карысць "Камунальніка".

Тры гульні з камандамі з аднолькавымі назвамі "Нёман" атрымаліся такімі рознымі, што наводзіць на думку аб нестабільнасці гульні слонімскіх футбалістаў. Але, як зазначыў Барыс Лазарчык, камандная гульня пачала наладжвацца, вымалёўваецца гульнявое паразуменне паміж футбалістамі, у камандзе з'яўляюцца лідэры. Застаецца падцягнуць тэхнічную падрыхтоўку і канчаткова вызначыцца з асноўным складам на першыя гульні чэмпіянату.

Увогуле ж, у Кубку вобласці слонімцы занялі другое месца (5 ачкоў). На першым месцы – гродзенскі "Нёман" з дванаццаццю ачкамі. Мастоўскі "Нёман" згуляў наўдала, – прайграў "Нёману" (Гродна) 0:3, "Нёману-2" – 0:1, "Камунальніку" – 2:4 і выйграў толькі ў "Ліды" – 2:1. Мастаўчане з трыма ачкамі размясціліся на апошнім радку турнірнай табліцы Кубку.

Па выніках турніру былі вызначаны лепшыя футбалісты. Лепшым нападаючым названы Дзмітрый Аначэнка ("Камунальнік" Слонім).

**Валерый КАВАЛЕНКА**

НОВОСТЬ

# ЛУКАШЕНКО ГОТОВ ПЕРЕСАДИТЬ ВСЕХ, КТО УКРАДЕТ

**"Если только хоть один цент, я не говорю о долларе, будет куда-то на сторону использован, или вы не найдете объяснений на какой-то мой вопрос финансовый – вы в тюрьме".**

Такое заявление сделал Александр Лукашенко 4 апреля на совещании по вопросу строительства в Минске крытого футбольного манежа. Свою угрозу он адресовал председателю Минского горисполкома Михаилу Павлову, министру спорта и туризма Евгению Ворсину, а также "всем сидящим здесь участвующим в строительстве". "Имейте это в виду. Я устал контролировать своих чиновников по разного рода вопросам. Я вам говорю это публично", – подчеркнул Лукашенко.

**Наталья ФУРСОВА**

• КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС •

# ШАХМАТЫ

**Заданне №5**




**Белыя:** Кр h2, Г g5, С e3, пп. a4, b2, f2, f3 (7).
**Чорныя:** Кр c4, пп. b4, c2 (3).
**Белыя пачынаюць і ставяць мат у тры хады (3 ачкі).**

Рашэнні заданняў №№1, 2 ("ГС" №№11, 12):
Заданне №1. Г. Хіткот
1. Г h8!
Заданне №2. Л. Куббель
1. В d4!

Правільныя адказы даслалі слонімцы Сяргей Ярмаловіч, Сяргей Дзянісаў, Аляксандр Зыль, Уладзімір Захарчук, Станіслаў Альховік, Барташ Л.П. і Сяргей Калодка з Дзятлава.

# ШАШКІ

**Заданне №4**




**Белыя:** b2, c1, c3, e3, f2, f4, g3, h6 (8).
**Чорныя:** a3, b8, c5, c7, d6, e5, g5, h8 (8).
**Белыя пачынаюць і выйграюць.**

Рашэнне задання №1 ("ГС" №10):
1. f2 – e3 f4 : d2
2. d4 - e5 f6 : b2
3. h4 : b6! a7 : c5
4. e1 : a1 і апазіцыя на карысць белых.

Свае адказы дасылайце на адрас "ГС" з паметкамі "шахматы" ці "шашкі" суадносна на працягу двух тыдняў са дня апублікавання задання.

• КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС •

БИЛЬЯРД

# С ПРИЦЕЛОМ НА ЧЕМПИОНАТ РЕСПУБЛИКИ

**Закончился очередной чемпионат Слонима по бильярду (московская пирамида).**


Фота Віталя ГІЛЯ

*Леонид Речиц в качестве судьи наблюдает за игрой Игоря Купавы*

Звание чемпиона города выиграл Игорь Купава, победитель прошлогоднего первенства Беларуси, участник чемпионата мира. Второе место занял Артем Рафалович. Третье и четвертое места у Сергея Борика и Виталия Киселя, соответственно.

Чемпионат города рассматривается не только, как отдельный турнир, но и как часть подготовки к соревнованиям более высокого ранга – чемпионату Беларуси. Кстати сказать, что команда слонимских мастеров бильярда на протяжении последних лет неизменно находится в числе лидеров белорусского бильярдного спорта.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

